

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№15 (179) КАСТРЫЧНІК 2014 ГОД

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## РАСЦЕ КОЛЬКАСЦЬ ДАЎЖНІКОЎ ПА ЗАРПЛАЦЕ

**У Шумілінскім раёне тры прадпрыемствы маюць пратэрмінаваную запазычанасць па зарплаце.**

Як паведаміў Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь на 1-га кастрычніка 2014-га года ў 222 арганізацыях краіны мелася пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 33,8 тыс. работнікаў. Сума пратэрмінаванай запазычанасці склала 123,3 мільярда рублёў, або 0,7 працэнта ад фонду заработнай платы па рэспубліцы за жнівень 2014 года.

Па меншай меры, на 1 верасня 2014-га года ў 81 арганізацыі краіны мелася пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 12,1 тыс. работнікаў. Па ўсяму відаць, што колькасць арганізацый-даўжнікоў па краіне ўсяго за адзін за месяц вырасла амаль утрая.

У Віцебскай вобласці запазычанасць маюць 28 арганізацый. Найбольшая іх колькасць знаходзіцца ў Браслаўскім (6) і Талачынскім раёнах (5).

У Шумілінскім раёне таксама назіраецца рост даўжнікоў - налічваецца ўжо тры арганізацыі, якія дапусцілі пратэрмінаваную запазычанасць па заработнай плаце. Сярод даўжнікоў ААТ "Обальскі керамічны завод", ААТ "Лаўжанскае", ААТ «Прыазёрны мір".

**Алесь Шумскі**

ДЗЕЛАВЫ СВЕТ

## МІЛЬЯРДЭР САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА РОДАМ З ШУМІЛІНА

**Расійскае выданне "Дзелавы Пецярбург" апублікавала рэйтынг найбагацейшых прадпрымальнікаў горада на Няве. У спіс увайшлі 158 чалавек, чыё стан перавышае 1 млрд рас. рублёў. З іх 8 - выхадцы з Беларусі, адзін нарадзіўся ў Шуміліна.**

Капітал Аляксандра Яўневіча ураджэнца Шуміліна, які заняў у рэйтынгу 45-е месца, складае 19,5 млрд. рас. рублёў. Ён вучыўся на матэматыка-механічным факультэце ЛДУ, працаваў ва ВНДІ гідратэхнікі ім. Ведзянеева, а ў 1994 годзе разам з партнёрамі заснаваў кампанію "Орими Трэйд". Спачатку яна гандлявала мукой, цукрам і тушонкай, а потым засяродзілася на дыстрыбуцыі гарбаты.

Цяпер "Орими" выраблае і прадае трацыну гарбаты і кавы на расійскім рынку. Іншы буйны бізнес Яўневіч - гэта сетка па продажы тавараў для рамонту і будаўніцтва "Максидом". У 2011 годзе ён стаў акцыянерам пецярбургскага банка "Аб'яднаны капітал".

**TUT. BY**

*ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY*

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## ЗА БЯСПЕКУ ЎСЕ Ў АДКАЗЕ

**У раёне прайшлі планавыя мерапрыемствы па захаванні пажарнай бяспекі. Кіраўнікі Шумілінскага РАНС ладзілі сустрэчу з працаўнікамі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, з персаналам і грамадзянамі дома састарэлых ў Мішневічах і вучнямі Обальскай школы.**

Бадай што, агульная задача для ўсіх, хто нясе адказнасць за жыццё людзей, — папярэдзіць іх гібель і траўматызм у надзвычайных сітуацыях і зрабіць жыццё бяспечным.

З гэтай мэтай намеснік начальніка Шумілінскага РАНС Шархун Валерый сустрэўся з працоўным калектывам УП ЖКГ Шумілінскага раёна. Падчас сустрэчы працаўнікоў камунгасу праінфармавалі аб аператыўнай сітуацыі з пажарамі і гібеллю на іх людзей.

Як сведчаць даныя статыстыкі - 90 працэнтаў пажараў у Беларусі адбываецца ў жылым сектары. Людзі гінуць з-за неасцярожнага абыходжання з агнём, часцей п'яныя і ў дадатак аматары выкурыць цыгарэту нават у самых непрыдатных для гэтага ўмовах. Падчас ацяпляльнага сезона прычынамі пажараў у жылых дамах становяцца яшчэ і парушэнні правілаў эксплуатацыі пячнога ацяплення.

Таму кіраўнік шумілінскіх ратавальнікаў падрабязна пералічыў асноўныя прычыны ўзнікнення пажараў і правілы пажарнай бяспекі, якія неабходна выконваць у побыце і на працоўных месцах для таго, каб не дапусціць надзвычайнай сітуацыі. Пры гэтым асаблівая ўвагу звярнуў на самую актуальную на сённяшні дзень тэму - падрыхтоўку да ацяпляльнага сезона і правіламэксплуатацыіпячногаацяплення, газавага і электранагравальнага абсталявання.

Гэтыя ж пытанні — скарачэнне колькасці пажараў і павышэнне бяспекі людзей - знаходзяцца ў полі зроку іншых структур. Менавіта таму у ходзе мерапрыемства абмяркоўваліся пытанні ўзаемадзеяння ўсіх службаў раёна пры ўзнікненні надзвычайнай сітуацыі і выяўлення фактаў парушэння норм і правілаў пажарнай бяспекі ў жылым сектары. Варта адзначыць, што пытанням пажарнай бяспекі ўдзяляецца значная ўвага. У кожным сельсавеце вызначаны групы рызыкі, і з кожнай катэгорыяй грамадзян праводзіцца пэўная работа.

У сваю чаргу намеснік начальніка Шумілінскага РАНС Дзмітрый Красоўскі сустрэўся з медычным персаналам і грамадзянаміаддзяленнякруглasутачнага знаходжання для інвалідаў і састарэлых вёсцы Мішневічы. Для іх прадэманстравалі відэафільмы і фотаматэрыялы з канкрэтнымі прыкладамі пажараў, асноўных парушэнняў правілаў пажарнай бяспекі ў прыватных домаўладаннях, а таксама іх наступстваў.

І гэта яшчэ не ўсё. У рамках праводзімай рэспубліканскай акцыі «Моладзь за бяспеку» актывісты раённага аддзялення юных ратавальнікаў-пажарных Обальскай сярэдняй школы пад кіраўніцтвам начальніка ПАСП №11 г.п. Обаль Віктара Баганава аказваюць шэфскую дабрачынную дапамогу састарэлым і адзінокім людзям у вырашэнні розных бытавых пытанняў. Школьнікі займаюцца прывядзеннем у парадак прыдамавых тэрыторый, дзе пражываюць людзі сталага веку. Пенсіянеры выказваюць маладзёнам цёплыя словы ўдзячнасці.

**Уладзімір Амбросаў**

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

## НОВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ

**Обальскі керамічны завод укараняе тэхналогію па зніжэнні энергазатрат пры вытворчасці цэглы ў два разы.**

Праект уключае поўную рэканструкцыю тэхналагічнага цэха №2, закупку сучаснага абсталявання. Праектныя і будаўніча-мантажныя работы прадпрыемства ажыццяўляе за ўласныя сродкі. На сённяшні дзень вядзецца мантаж часткі абсталявання, якое закуплена за сродкі інавацыйнага фонду Віцебскага аблвыканкама. Першы транш склаў Br14 млрд, у бліжэйшыя дні чакаецца паступленне другога 25 млрд. рублёў таксама на закупку абсталявання. Праўда, для завяршэння тэхналагічнага цыклу заводу не хапае яшчэ 17 млрд., аднак прадпрыемства вядзе актыўны пошук інвестараў, прапрацоўвае іншыя крыніцы фінансавання і плануе, што ў ліпені 2015 года пачне выпуск гатовай прадукцыі на новай лініі.

За кошт змены тэхналогіі вытворчасці знізіцца энергетычны складнік і цана практычна ўдвая без страты якасці гатовага прадукту. Керамічная цэгла па сваіх спажывецкіх уласцівасцях пераўзыходзіць бетон і іншыя віды сценавых матэрыялаў, а за кошт зніжэння цэны ён стане больш канкурэнтаздольным на любых рынках. У першую чаргу на расійскім, куды завод адгружае амаль 70% прадукцыі.

ААТ "Обальскі керамічны завод" - найбуйнейшае прадпрыемства ў Беларусі па вытворчасці цэглы і керамічных вырабаў. Завод заснаваны ў 1929 годзе і з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам г.п. Обаль. Прадукцыя рэалізуецца як на ўнутраным, так і на расійскім рынках, і ў краіны СНД.

**Алесь Прыбярэжны**

МАЛЫ БІЗНЭС

## ВЫПУСК НОВАЙ ПРАДУКЦЫІ

**У былым цэху заводу «Вістан» наладзілі вытворчасць пластмасавых вырабаў.**

У пачатку мінулага года віцебскае прадпрыемства «Альянспласт» набыло з аўкцыёну ў Шуміліне былы цэх завода «Вістан» для арганізацыі вытворчасці пластмасавых вырабаў. Цэлы год пайшоў на рэканструкцыю занядбанага будынка. Цяпер на гэтым месцы ўзведзены сучасны вытворчы модуль, створана 34 рабочых месцы.

Першыя ліцейныя станкі пачалі выпуск вырабаў у красавіку гэтага года. Усяго тут дзесяць машын, здольных вырабляць з паліпрапілена упаковачную прадукцыю любой формы, аб'ёму і каляровай гамы. Асноўная частка паступае на экспарт. Цэх працуюць кругласутачна, у кожнай змене па пяць аператараў (усяго іх 20). Пакуль што працуюць тры брыгады, адна знаходзіцца на выхадных. Заробак залежыць ад выпрацоўкі і складае ад 4 да 6 млн. руб.

Рабочыя задаволеныя графікам і ўмовамі працы – аб сведчыць і колькасць зваротаў з просьбамі аб працаўладкаванні. На ўлік паставілі дваццаць кандыдатаў, але цяпер прыходзіць значна болей. Зараз патрабуецца электрамеханік і бухгалтар. Усе рабочыя забяспечаны сацыяльным пакетам.

Паводле аддзела эканомікі Шумілінскага райвыканкама, за апошнія тры гады малы бізнес атрымаў у раёне значнае развіццё. Калі на 1 студзеня 2011 працавалі 58 мікра- і малых арганізацый і 202 індывідуальных прадпрымальніка, то на аналагічную дату 2014-га - 129 і 189 адпаведна.

За 2013 ад суб'ектаў малога бізнесу і індывідуальных прадпрымальнікаў у раённы бюджэт паступіла 7,2 і звыш 2 млрд рублёў адпаведна. Удзельная вага паступленняў плацяжоў складае 54,1%.

**Ян. Вайтовіч**

З ЗАЛЫ СУДА

# СКРАЎ СКАЦІНЫ НА 50 МІЛЬЁНАЎ РУБЛЁЎ

**Нядаўна ўступіў у законную сілу прыгавор, вынесены судом Шумілінскага раёна па абвінавачванні раней судзімага маладзёна, які за месяц учыніў яшчэ два крадзяжы з дзяржаўных гаспадарак і прыватнага падворка.**

Крадзёж — гэта самае распаўсюджанае злачынства ў Шумілінскім раёне. Прычыны вядомыя: Нядбайная захаванасць дзяржаўнай маёмасці, злоўжыванне службовым становішчам, абыякавасць да выканання службовых абавязкаў. Відавочна, што гэтыя праблемы ніколі не страчваюць сваёй актуальнасці. Інакш, як можна патлумачыць той факт, што на працу ў сельгаспадарчыя прадпрыемствы прымаюць ужо судзімых злодзеяў, якія зноў і зноў бяруцца за старое?

Вось і на гэты раз на лаве падсудных апынуўся зусім малады чалавек, які паспеў жаніцца, завесці сям'ю. Аднак пра прыстойнае жыццё ніколі не задумваўся і адразу пайшоў па крывой дарожцы. Год таму маладзёна судзілі за крадзёж, ён атрымаў восем месяцаў папраўчых работ з утрыманнем 15% заробку ў даход дзяржавы. Маладога чалавека пашкадавалі і ўзялі на працу жывёлаводам у адной з мясцовых сельгаспадарак раёна.

Аднак ніякіх вывадаў для сябе малады чалавек так і не зрабіў. Аднойчы вясною вырашыў скрасці і прадаць перакупшчыкам некалькі калгасных цёлак. Напарнік, які пасвіў скаціну разам з ім у полі, паспрабаваў адгаварыць гора-пастуха ад злачынства. Але ўгаворы не падзейнічалі, і хлопец ноччу адвёў трох цялят у патаемнае месца, а раніцой прадаў іх камерсантам усяго за адзін мільён рублёў.

Афёра ўдалася і праз месяц ён вырашыў паўтарыць крадзёж жывёлы. Толькі затым ён скраў двух коней: аднаго ў прыватнага гаспадара, а другога – у лягсасе. Крадзеных коней зноў прадаў камерсантам за 10 мільёнаў рублёў. Прычым гэтыя немалыя для вяскоўца грошы аддаў жонцы, а тую нават не збянтэжыў той факт, адкуль яны ўзяліся. Але на судзе жонка і сваякі слёзна прасілі не пазбаўляць маладзёна волі.

Цяпер рэцыдывіст быў пакараны па ўсёй строгасці закона. На судзе быў вынесены наступны вердыкт: фіґуранту справы прысудзілі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам два з паловай года ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму. Быў падлічаны ўрон, нанесены прадпрыемствам і прыватніку. Усяго скрадзеныя цяляты і два кані ацэньваюцца на суму ў 50 мільёнаў рублёў, з якіх трэба заплаціць 25 мільёнаў мясцовай гаспадарцы, 13 мільёнаў лягсасу і 12 мільёнаў прыватнаму гаспадару.

**Ян Вайтовіч**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# КРАДЗЁЖ

**Прадукты харчавання скраў з лецішча мясцовы непрацуючы напэўна не з мэтай каб паесці, а хутчэй набыць за іх грошы на алкаголь.**

4 кастрычніка невядомы злодзей узламаў аконную раму і залез у дачны домік, які належаў жыхару Віцебска. Пацярпелы грамадзянін 1960 нараджэння паведаміў ў Шумілінскі РАУС, што з яго лецішча прапалі прадукты харчавання і адзенне. Шкода была вцэненая ў 338 тыс. рублёў.

Следча-аператыўная група знайшла злачынцу - ім апынуўся непрацуючы жыхар раёна 1973 года нараджэння, раней ужо судзімы за крадзеж. У адносінах да рабаўніка ўзбуджана крымінальная справа па 205 частиі 2 Крымінальнага Кодэкса РБ ў сувязі з пранікненнем у памяшканне. Дадзены артыкул прыдугледжвае розныя формы і тэрміны абмежавання свабоды.

**Сяржук Горкі па зводках УУС**

# ТРАПІЎ ПАД МАШЫНУ

**Паблізу горпасёлка Шуміліна быў здзейснены наезд на жыхара Обалі.**

25 кастрычніка каля Шуміліна ў 18.50 легкавік «Форд» наехаў на жыхара горпасёлка Обаль, 1959 года нараджэння.

Мужчына быў адпраўлены ў шпіталь, дзе каля поўначы ад атрыманых траўм памёр.

**Па зводках ДАІ Сяржук Горкі**

ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# ЗА БЯСПЕКУ Ў КОЖНЫМ ДОМЕ

**На Шуміліншчыне працягваюцца чарговыя праверкі жылых дамоў грамадзян, якія пражываюць у сельскай мясцовасці. Акцыю ладзілі работнікі абласнога упраўлення МНС у мэтах папярэджання пажараў у вёсках.**

У Шумілінскім раёне, як і ў цэлым па вобласці, павышаная ўвага да супрацьпажарнага стану жыллёвага фонду грамадзян, якія пражываюць у сельскай мясцовасці. Пажарна-прафілактычная акцыя па папярэджанні пажараў у жыллёвым фондзе вёсак і пасёлкаў раёна і гібелі на іх людзей ў асеннезімовы перыяд арганізавана абласнымі ратавальнікамі ў рамках рэспубліканскага мерапрыемства «За бяспеку разам».

Падчас акцыі работнікі МНС агледзелі жылыя дамы, што размешчаны на тэрыторы Обальскага сельскага Савета. Праверка жылога фонду пачалася з гарадскога пасёлка Обаль.

Усяго ходзе рэйду ратавальнікамі праверана 97 домаўладанняў, складзены 2 адміністрацыйныя пратаколы. Аб мерах пажарнай бяспекі ў побыце праінструктаваны 241 чалавек. Падчас акцыі супрацоўнікі МНС праводзілі прафілактычныя гутаркі ў працоўных калектывах, установах адукацыі, на сельскіх сходах грамадзян.

Вось і на гэты раз у Обальскім сельскім Савеце быў праведзены інструктаж для грамадзян па пытаннях захавання пажарнай бяспекі ў дамах. Адначасова прысутным ўручаліся прафілактычныя ўлёткі, былі даведзены патрабаванні па тэхнічным абслугоўванні апавяшчальніка.

У ходзе наведвання жыллёвага фонду работнікамі УМНС выяўлены шэраг тыповых парушэнняў. Тут ёсць над чым задумацца: адсутнасць аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, парушаныя коміны дымаходаў, старая электрычная праводка – гэта асноўныя факты парушэнняў правілаў пажарнай бяспекі, з якімі ўвесь час змагаюцца не толькі супрацоўнікі Шумілінскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях, але і мясцовыя ўлады. Найбольш характэрныя парушэнні - прымяненне ў электралічыльніках замест аўтаматычных засцерагальнікаў абароны так званых «жучкоў» і адсутнасць элементаў харчавання ў аўтаномных пажарных апавяшчальніках.

Варта дадаць, што правядзенне падобных мерапрыемстваў з'яўляецца вымушанай мерай, а галоўная мэта работнікаў МНС не пакараць рублём, а прымусіць людзей задумацца пра ўласную бяспеку і прыняць меры па прывядзенню ўпажарабяспечны стан сваіх домаўладанняў.

Хочацца спадзявацца, што вось такія сустрэчы вяскоўцаў з прадстаўнікамі абласнога аддзела па надзвычайных сітуацыях прынясуць агульную карысць у мэтах папярэджання пажараў у вёсках Обальшчыны.

**Алесь Прыбярэжны**

ПРАВЫ СПАЖЫЎЦА

# УПАКОЎКА ПАВІННА БЫЦЬ БЯСПЛАТНАЙ

Закон аб дзяржаўным рэгуляванні гандлю і грамадскага харчавання ўступіў у сілу 22-га ліпеня, але не ўсе грамадзяне чыталі яго ўважліва. Як і пастанову Савета міністраў 703, якая зацвердзіла Правілы продажу асобных відаў тавараў і ажыццяўлення грамадскага харчавання. Але значна горш, што гэтага не зрабілі і людзі, абавязаныя ведаць усе профільныя дакументы назубок па абавязку службы: менеджэры, дырэктары і ўласнікі крам. Інакш яны б дакладна ведалі: тавары, якія па сваім характары патрабуюць затарвання, перадаюцца пакупніку ў упакаваным выглядзе без дадатковай платы.

Дарэчы, гэтая норма ў заканадаўстве была і раней. Яна сфармуляваная ў артыкулах Грамадзянскага кодэкса №451 і 452. Першая кажа пра тое, што прадавец абавязаны перадаваць тавар пакупніку ў тары, якая забяспечвае яго захаванасць, а другая - што іншы падыход расцэньваецца як перадача прадукцыі неналежнай якасці. А паколькі бясплатнасць фасовачных пакуначкаў цяпер яшчэ і прадубліраваная ў правілах гандлю, то ў нас з'явілася некалькі падстаў, каб ўздзейнічаць на нядобрасумленных і незаконапаслухмяных прадаўцоў. Таму што парушаюць яны зараз, прычым масава, адразу два законы: аб гандлі і абароне правоў спажыўцоў. Такім чынам, калі сёння ў краме вам прапануюць аплаціць фасовачны пакет - смела адмаўляйцеся. Усе заканадаўчыя аргументы на вашым боку. Прымушаюць? Што ж, заплаціце, чэк захавайце, але неадкладна запатрабуйце кнігу заўваг і прапаноў. Яна выдаецца па першым патрабаванні. Робіце туды запіс і чакаеце рэакцыі.

Дарэчы, калі ўвесь працэс выклікаў у вас нязручнасці: страцілі час, сапсавалі сабе настрой - ёсць падстава запатрабаваць кампенсацыі не толькі матэрыяльнай, але і маральнай шкоды. Магу нават падказаць распаўсюджаную ў судовых рашэннях суму - 100-150 тысяч рублёў. А за парушэнне правілаў гандлю адказнай службовай асобе пагражае штраф ад 2 да 5 базавых велічынь. Забягаючы наперад, скажу: Мінгандлю ужо ўнёс прапанову аб узмацненні жорсткасці пакарання. Сумы плануюць павялічыць да 10-50 базавых.

Гэтак адназначная норма ў заканадаўстве з'явілася невыпадкова. Многія еўрапейскія дзяржавы адмаўляюцца ад пластыкавых пакетаў. Некаторыя прадстаўнікі айчыннага бізнесу, асабліва звязанага з перапрацоўкай другаснай сыравіны, таксама выступаюць за поўную забарону ўпакоўкі, якая забруджвае навакольнае асяроддзе.

- Мы спрабуем ўздзейнічаць на гандаль эканамічным шляхам, - разважае Андрэй Мяшкоў, намеснік начальніка ўпраўлення арганізацыі гандлю і паслуг Мінгандлю, - абавязаўшы перадаваць пакупніку тавар у бясплатнай упакоўцы. Выкарыстанне поліэтыленавых пакетаў зараз стане нявыгадным.

***Дарэчы***

*Могуць адпускацца без тары буйныя гародніна і садавіна з цвёрдай лупінай, такія як ананасы, кавуны, дыні, гарбузы, авакада, манга, памялцо і капуста.*

*Тавары, якія патрабуюць затарвання*

*Харчовыя: не спакаваныя вытворцам (пастаўшчыком) у спажывецкую тару; вагавыя тавары ва ўпакоўцы вытворцы, у тым ліку каўбасныя вырабы, сыры, цукровыя кандытарскія і іншыя вырабы ў абалонцы, абгортцы, плёнцы, пергаменце, паперы; хлебабулачныя вырабы, у тым ліку ў ўпакоўцы вытворцы ў выпадку разрэзання іх на часткі; прадукцыя ўласнай вытворчасці.*

*Нехарчовыя: усё, якія могуць быць забруджаныя або пашкоджаны (разбітыя) пры транспартоўцы: пасцельная і сподняя бялізна, панчошна-шкарпэткавыя вырабы, посуд са шкла і фарфору, навагодня цацкі і іншыя падобныя вырабы, а таксама тыя, што самі могуць забрудзіць альбо пашкодзіць рэчы пакупніка (мыла, напрыклад); дробнаштучныя: гузікі, кнопкі, цвікі, шрубы, фурнітура, бігудзі, прышчэпкі; метражныя: тканіны, трыкатажнае і гардзіннае палатно, штучны мех, нятканыя матэрыялы, стужкі, карункі, тасьма, драты, шнуры; цыбуліны раслін, расада, насенне, пасадачны матэрыял, корм для жывёл, птушак і рыб.*

**"Савецкая Беларусь"**
**Аэліта Сюльжына**

# АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКІЯ АДНОСІНЫ

# ЯК ВІЦЬ ВЯРОЎКІ З ПУЦІНА

**Наступным годам Беларусь атрымае ад Расеі шчодры падарунак — ня менш як 2,5 млрд даляраў. Своеасаблівая гуманітарная дапамога Лукашэнку да прэзыдэнцкіх выбараў.**

Падкрэсьлім: гэта менавіта падарунак. Не крэдыт, які сёлета атрымала Беларусь. Ніякімі пагадненьнямі Расея не абавязаная даваць такія грошы саюзьніку. Перамены ў падатковай сыстэме — гэта ўнутраная справа кожнай краіны Мытнага саюзу, яны не рэгулююцца дакумэнтамі гэтага аб'яднаньня, ва ўсялякім разе, на цяперашнім этапе. Уласна кажучы, падатковы манэўр у Расеі часткова і ажыцьцяўляецца дзеля таго, каб нэўтралізаваць прэтэнзіі Беларусі («гандаль без абмежаваньняў і выключэньняў»), легалізаваць адмову Масквы падтрымліваць беларускі нафтавы афшор. І цяперашняя згода РФ кампэнсаваць Менску страты — гэта проста прэмія Беларусі за згоду стаць удзельніцай Эўразійскага эканамічнага саюзу (ЭАЭС).

Самае цікавае, што Беларусь атрымала згаданую прэмію двойчы ў 2014 годзе. Вясной, перад падпісаньнем дамовы аб утварэньні ЭАЭС, Менск жорстка патрабаваў, каб мыта на нафтапрадукты, якое Беларусь пералічвае ў расейскі бюджэт, засталося ў беларускім бюджэце. Лукашэнка ставіў гэтае пытаньне ў форме амаль што ўльтыматуму. Маўляў, Менск падпіша пагадненьне аб утварэньні ЭАЭС толькі пры ўмове, што Расея пагодзіцца задаволіць патрабаваньне Беларусі. Выступаючы 22 красавіка ў Нацыянальным сходзе з пасланьнем, Лукашэнка заявіў: «Я скажу маім гасьцям і калегам, ці жадаюць яны ствараць саюз, ці не... Давайце прыбярэм усялякія абмежаваньні. Але калі гатовыя сёньня толькі падпісаць дамову, а абмежаваньні прыбраць праз 10–15 гадоў, то вось тады і падпішам».

Масква тады паддалася на шантаж і пайшла на саступкі. За подпіс Лукашэнкі Расея пагадзілася,кабнаступнымгодам палова аб'ёму мыта за экспарт нафтапрадуктаў заставалася ў беларускім бюджэце (гэта каля 1,5 млрд даляраў). Таксама РФ пацьвердзіла сваё абяцаньне выдзеліць Беларусі крэдыт у памеры 2 млрд даляраў. Грошы былі пералічаныя ў верасьні, праўда, у расейскіх рублях. Акрамя таго, Менск атрымаў згоду Масквы на павелічэньне паставак нафты на беларускія НПЗ наступным годам, а таксама дамогся права прадаваць на расейскім рынку вырабленыя ў Беларусі аўтамабілі Geely.

І вось цяпер, спасылаючыся на падатковы манэўр у Расеі, беларускае кіраўніцтва заявіла, што не ратыфікуе дамову аб утварэньні ЭАЭС, пакуль Масква не кампэнсуе Беларусі страты ад гэтай эканамічнай апэрацыі. І што вы думаеце? Расея пагадзілася. Цяпер усё мыта за экспарт нафтапрадуктаў застанецца ў Беларусі, што ацэньваецца як 2,5 млрд даляраў дадатковых паступленьняў у беларускі бюджэт наступным годам. Нядрэнны падарунак Лукашэнку да прэзыдэнцкіх выбараў.

Прадаць два разы адзін і той жа тавар — згоду стаць удзельнікам ЭАЭС — гэта вышэйшы пілятаж. Больш за тое, Беларусь ратыфікавала дамову аб стварэньні Эўразійскага эканамічнага саюзу з заявай, якая фактычна закладае міну пад існаваньне самага гэтага інтэграцыйнага аб'яднаньня…

У перакладзе на нармальную мову ўсё гэта азначае: мы будзем выконваць пагадненьні ЭАЭС толькі пры ўмове, што Расея будзе нам плаціць столькі, колькі мы скажам!

Гэтай заявай Беларусь фактычна зводзіць на нішто ўсе пагадненьні ў рамках гэтага саюзу, увогуле ўвесь праект ЭАЭС. Цікава, як на ўсё гэта адрэагуе Расея?

Сёньня на Захадзе вялікая праблема з тым, як паўплываць на Пуціна. Лічыцца, што зь ім немагчыма дамовіцца. А вось Лукашэнка паказаў, што, аказваецца, з Пуціна можна вяроўкі віць. Толькі калі ведаць як. Лукашэнка можа арганізаваць у Менску курсы павышэньня кваліфікацыі па працы з кіраўніцтвам Расеі. І браць за гэта цьвёрдай валютай.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

НАШЫ МЕЖЫ

# ШТО БАРОНІЦЬ КРАІНУ МАЦНЕЙ АРМІІ…

**Аляксандр Лукашэнка распавядае пра "класныя творы" Васіля Быкава, а таксама выказваецца за павелічэнне колькасці гадзін на выкладанне беларускай мовы у агульнаадукацыйных школах. Аб тым, што азначае такі паварат улады ў бок беларускамоўнасці, распавядае пісьменнік Уладзімір АРЛОЎ.**

«Васіль Быкаў не быў маім прыхільнікам, але ў яго ёсць класныя творы — тое, што мы і нашы дзеці павінны ведаць, – заявіў Лукашэнка напрыканцы мінулага тыдня. – Але ёсць некаторыя [аўтары, уключаныя ў школьную праграму], якія толькі прозвішча беларускае носяць, а чытаць няма чаго».

Крыху раней афіцыйны лідар зрабіў яшчэ адну заяву: "Добра, мы ўсе размаўляем па-руску. Па-беларуску, скажу шчыра, дома і ў побыце мы размаўляем менш. Тады, магчыма, неабходна ў школе даць яшчэ адну гадзіну на карысць беларускай мовы замест англійскай?"

Уладзімір Арлоў: Ёсць такое выслоўе: "Мова абараняе межы краіны мацней за армію". Мне бачыцца не выпадковым тое, што ўсе апошнія заявы афіцыйнага лідара ў падтрымку беларускай мовы і культуры прагучалі ўжо ў новай геапалітычнай сітуацыі, якая ўзнікла ў сувязі з падзеямі ва Украіне. Гэта сведчыць пра разуменне расейскай пагрозы. Што ж датычыцца пра дадатковую гадзіну ў школах на вывучэнне мовы, то я, па-першае, зусім не ўпэўнены, што гэтая гадзіна ў школьнай праграме з'явіцца. А, калі і з'явіцца, то яна нічога не вырашыць.

**РР: Чаму так песімістычна?**

Уладзімір Арлоў: Як літаратар, які нярэдка сустракаецца, нягледзячы на ўсе чорныя спісы, з вучнямі, магу сказаць, што сёння і ў гарадскіх, і ў вясковых школах, асабліва вучні малодшых класаў, ужо ўспрымаюць беларускую мову як замежную. І па сутнасці нават не разумеюць таго, што ім спрабуе расказаць пісьменнік. Я думаю, тыя калегі, якія таксама сустракаюцца з дзецьмі, могуць гэта толькі пацвердзіць. Вось да чаго давяла палітыка ўлады ў галіне школьнай адукацыі!

І таму лічу, што, калі сапраўды клапаціцца пра захаванне і развіццё беларускай мовы (як мовы

*(працяг на стар. №4)*

КОШТ НАФТЫ

# ПАРАДОКСЫ ГЛАБАЛІЗАЦЫІ

**Сусветнае падзенне коштаў на нафту, здавалася б, мала тычыцца Беларусі — ў нас гэтай сыравіны, як кацянё наплакала. Але насамрэч гэтыя выбрыкі глабальнага рынку могуць справакаваць дэфолт у «сінявокай».**

Сусветныя рынкі ліхаманіць. Напачатку тыдня паскорыўся працэс зніжэння сусветных коштаў на нафту. Каціроўкі асноўных марак гэтага прадукту (Brent і WTI) апусціліся ніжэй за $90 за барэль. Напрыклад, у чацвер кошт Brent склаў $82,91 за барэль, а амерыканскі гатунак WTI патаннеў аж да $80,71. Гэта самыя нізкія кошты са снежня 2010 года.

Найбуйнейшыя вытворцы нафты — Саудаўская Аравія і Кувейт — гатовыя мірыцца з нізкімі сусветнымі коштамі. Як паведаміла агенцтва Reuters, прадстаўнікі Саудаўскай Аравіі не супраць падзення коштаў да $80, калі гэта дапаможа краіне змагацца з канкурэнтамі. Міністр нафтавай прамысловасці Кувейта Алі аль-Амаір мяркуе, што скарачэнне здабычы нафты ўсё роўна не ўтрымае цэны ад падзення. Па ягоных словах, цэны могуць спыніцца ў межах $76–77 за барэль, бо гэта сабекошт здабычы нафты ў ЗША і Расіі.

У Беларусі нафты — кацяня наплакала. Здавалася б, жыві і радуйся: для нашых нафтаперапрацоўчых заводаў будзе палёгка: чым меншы кошт нафты, тым лягчэй ім забяспечыць сваю вытворчасць. Дый кошты на газ, якія прывязаныя да коштаў нафты, таксама знізяцца. Але насамрэч усё не так. Такое імклівае зніжэнне сусветных коштаў на нафту па нас ударыць вельмі балюча. А ўсё таму, што мы, па-першае, шчыльна завязаныя на пастаўкі гэтай сыравіны толькі з адной крыніцы — з Расіі. І, па-другое, мы яшчэ і шчыльна інтэграваныя ў расійскую эканамічна-фінансавую сістэму….

Значна больш па нас ударыць ускосныя наступствы падзення нафтавых коштаў. Справа ў тым, што бюджэт Расіі прымаецца адразу на тры гады. Напачатку гэтага года ён быў сфармаваны з разлікамі коштаў на нафту: у 2014-м — $93, у 2015-м — $95, і ў 2016-м — таксама $95. Прычым, лічба ў $95 за барэль лічылася «крызіснай». І кожную трэба ўлічыць, што палова ўсёй даходнай часткі бюджэту Расіі фармуецца коштам нафтагазавых даходаў.

У Расіі ёсць пэўная «падушка бяспекі» — Рэзервовы фонд, у які збіраліся «лішнія» грошы з надзвычай высокіх коштаў на нафту. На 1 кастрычніка гэтага года ён складае 90 мільярдаў долараў ЗША. Па прычыне зніжэння коштаў на нафту ў Расіі з'явілася думка гэты фонд «распячатаць». «Калі бягучая цана на нафту ў 87 долараў за барэль захаваецца на 2015 год пры кошце рубля да долара ў 40 рублёў за долар… то мы вымушаны будзем звяртацца да рэзервовага фонду», — заявіў міністр фінансаў Расіі Антон Сілуанаў на пасяджэнні бюджэтнага камітэта Дзярждумы.

У Беларусі такой «падушкі бяспекі» няма. Больш за тое, ужо некалькі гадоў запар мы штогод просім у Расіі грошы — як правіла, памер запытанага крэдыту складае $2 мільярды. Гэтыя грошы, у асноўным, ідуць на рэструктурызацыю раней узятых пазыкаў. То бок, за кошт новага крэдыту мы аддаем старыя.




Калі ж кошты на нафту працягнуць падаць, то… Расія апынецца ў складанай сітуацыі: нафтагазавыя даходы будуць значна меншыя, чым запланавана дзейсным расійскім бюджэтам. Самой пазычыць грошай у Расіі ў сённяшніх варунках не атрымаецца — з-за яе дзеянняў ва Украіне яна амаль поўнасцю адрэзаная ад знешніх фінансавых і крэдытных рэсурсаў. Калі ўжо там узнікла думка пра тое, каб «залезці ў заначку», то ні на якія новыя крэдыты Беларусі разлічваць амаль не прыходзіцца.

Паўтара мільярда долараў, якія мы атрымаем (і ці атрымаем яшчэ?) з экспартных пошлінаў, ад спаўзання ў «даўгавую яму» нас наўрад ці ўратуюць. Паводле дадзеных Мінфіна, абслугоўванне і пагашэнне знешняга дзярждоўгу ў 2015 годзе абыдзецца Беларусі ў $4 мільярды: $3 мільярды на пагашэнне доўгу і $1 мільярд — на бягучае абслугоўванне пазыкаў (працэнты). Такім чынам, у дадатак да пошлінаў нам трэба недзе знайсці $2,5 (4 мінус 1,5) мільярда. Ці збярэм мы іх «сваімі сіламі»?

Гэта будзе вельмі складана, бо за падзеннем коштаў на нафту для нас абрынецца і рынак асноўнага гандлёвага партнёра, якім, ізноў жа, з'яўляецца Расія. Ва ўмовах дэфіцыту грошай у самой Расіі складана разлічваць на тое, што яна будзе масава набываць замежныя тавары, хай сабе і беларускія, за якія трэба разлічвацца валютай. То бок, з-за падзення коштаў на нафту варта чакаць і скарачэння даходаў ад экспарту ў Расію.

У выніку Беларусь можа прыйсці да «тэхнічнага дэфолту» — адмо-вы плаціць альбо працэнты па пазыках, альбо асноўную частку доўгу. Прыкладна тое, што здарылася ў Расіі ў 1998 годзе.

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# ЛУКАШЕНКО ПОГОРЯЧИЛСЯ И БЫЛ НЕ ПРАВ?

**«Сейчас надену наручники, и пойдете все в камеры!» — грозил Александр Лукашенко сбившимся в кучку чиновникам, сопровождавшим его при посещении 8 ноября 2013 года ОАО «Борисовдрев».**

В Минском областном суде продолжаются слушания по уголовному делу бывшего генерального директора ОАО «Борисовдрев» Владимира Мальцева.

Большинство свидетелей уже допросили, правда, некоторые не явились, а потому, чтобы не терять время, судебное следствие перешло к стадии оглашения протоколов следственных действий и документов. Материалы дела озвучивает сторона обвинения. Процедура эта обязательная, но в основном прокурор Елена Филович зачитывает названия документов и лишь изредка приводит выдержки.

Для стороннего слушателя сложно понять, о чем идет речь, а вот Мальцев очень внимателен, держит процесс, что называется, под контролем, делая замечания и давая пояснения суду по тому или иному документу. «Следствие обвинило меня в том, что график монтажа оборудования котельной не разрабатывался», — сказал обвиняемый 20 октября во время озвучивания одного из документов, находящего в 40-м томе. Прокурор подтвердила, что такой график имеется в материалах дела.

Внимание же корреспондента Naviny.by привлекло оглашение 44-го тома дела, практически полностью состоящего из протоколов поручений первого заместителя премьер-министра Владимира Семашко и председателя Минского областного исполнительного комитета Бориса Батуры.

В суде Владимир Мальцев напомнил, что согласно указу президента ответственность за ход модернизации на «Борисовдреве» несут Миноблисполком и правительство. Именно Батура, по словам обвиняемого, дал поручение заключить договор с турецкой компанией Bersey на монтаж оборудования для котельной. Напомним, следствие пришло к выводу, что Мальцев заключил с турками этот контракт незаконно. Из озвученных, хоть и частично, в суде документов следует, что гендиректор ОАО «Борисовдрев» без указания свыше и шагу ступить не мог. Даже в производственных мелочах Мальцеву не позволялось принимать самостоятельные решения.

Цитата из поручения Семашко: «Борисовдреву» согласовать с турецкой компанией Bersey и выполнить покраску оборудования термостойкой краской».

Цитата из поручения Батуры: «Борисовдреву» обеспечить дополнительную поставку масла для котельной».

И это уровень высших должностных лиц? Становится понятным, почему так был взбешен Александр Лукашенко во время посещения «Борисовдрева» год назад. «Я просил вас снимать все вопросы здесь в течение суток… Я вам руки развязал…», — негодовал президент от увиденного. (Руки гендиректора Мальцева, похоже, были связаны, и президент это понимал).

В тот же день появился указ № 502 «Об ответственности за нарушение исполнительской дисциплины». Пункт 4 документа гласил:

«Генеральной прокуратуре, Комитету государственного контроля, Министерству внутренних дел в установленном порядке возбудить уголовные дела по фактам нарушений, допущенных при проектировании и строительстве объектов открытого акционерного общества «Борисовдрев», фактам бесхозяйственности при модернизации предприятия, обеспечить привлечение к ответственности виновных должностных лиц».

О возможном наказании руководителя ОАО «Борисовдрев» не было ни слова.

Правоохранители взяли под козырек и возбудили уголовное дело против освобожденных от должностей гендиректора ОАО «Стройтрест № 21» Николая Бусалова и директора КУП «Институт «Борисовпроект» Александра Мисиюка. Изначально крайними в этой производственной драме стать должны были именно они. О Владимире Мальцеве речи вообще не шло.

На одном из судебных заседаний Мальцев обронил фразу: «Мое уголовное дело было возбуждено против проектировщиков, которые сегодня переведены в свидетели».

Корреспондент Naviny.by пытался выяснить в Следственном комитете, на каком свете находится дело Бусалова и Мисиюка. Конкретного ответа не удалось получить. Окольными путями журналист узнал, что уголовное дело в отношении Бусалова и Мисиюка было прекращено за отсутствием в их действиях состава преступления. Оба они выступили в суде свидетелями, первый продолжает свою трудовую деятельность в стройтресте на должности заместителя директора, второй — в качестве заместителя главного инженера института «Борисовпроект».

Получается, Александр Лукашенко год назад погорячился, отправляя в камеру этих руководителей. Следствие же разобралось: прекращение уголовного преследование в данном случае означает, что президент был не прав.

Остается только порадоваться торжеству справедливости. И задаться вопросом: так ли виноват Владимир Мальцев, как «нарисовало» следствие?

Ответ прозвучит в решении суда.

**Виктор ФЕДОРОВИЧ "БЕЛАПАН"**

ЕЎРАПЕЙСКІ ВЕКТАР

# БЫЦЬ БЛІЖЭЙ ДА ЕЎРОПЫ…

**Афіцыйны Мінск спрабуе заняць нейтральную пазіцыю ў расійска-украінскім канфлікце, нягледзячы на крытычную залежнасць ад Расіі, заявіў на саміце Еўрапейскай народнай партыі старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.**

«Лукашэнка спрабуе заняць нейтральную пазіцыю адносна вайны ва Украіне, нягледзячы на крытычную залежнасць ад Расіі. Гэта добры шанец, каб пашырыць адносіны Еўразвяз - Беларусь. Дыялог павінен быць крытычны і абумоўлены. Але не ізаляцыя краіны», - адзначыў Аляксандр Мілінкевіч.

Чым бліжэй да Еўропы, тым далей ад агрэсара-Расіі, якая любымі спосабамі спрабуе рэалізаваць ідэю-фікс крамлёўскай эліты - аднаўлення імперыю, дадаў старшыня Руху «За Свабоду».

«Расійска-украінская вайна моцна паўплывала на Беларусь. Перад ваенным канфліктам амаль палова беларусаў выступала за ўступленне Беларусі у ЕЗ. Сёння такіх людзей у два разы менш», - адзначыў Аляксандр Мілінкевіч.

Па ягоных словах, сёння гэтаксама ж «аслабла жаданне рабіць рэформы, большасць хоча жыць у «беларускай Швейцарыі», у стабільнасці, у міры».

«Крамлёўская вайна за былыя савецкія рэспублікі пачалася не пасля Майдана, а шэсць гадоў таму, калі Масква напала на Грузію і анэксавала Паўднёвую Асетыю і Абхазію. Захад не знайшоў у сябе сілаў рашуча супрацьстаяць агрэсіі. Грузія, Украіна ... хто наступны?» - запытаўся старшыня Руху «За Свабоду».

«Гаспадар Крамля разумее толькі сілу. Дыпламатыю, кампраміс ён успрымае як слабасць. Захад не мае права аслабляць санкцыі, пакуль Расія не выведзе свае войскі з Украіны», - падкрэсліў Мілінкевіч.

Ён чакае, што Еўразвяз і ЗША будуць быць кансалідаванымі, цвёрдымі, паслядоўнымі.

«Еўропа павінна падтрымаць незалежнасць Украіны, Грузіі, Малдовы, Беларусі, краінаў Усходняга партнёрства - дапамогай у эканамічных і сацыяльных рэформах, пашырэннем абменаў, спрашчэннем візавага рэжыму і інш. Незалежнасць былых савецкіх рэспублікаў - самыя эфектыўныя лекі супраць расейскага неаімперыялізму», - адзначыў палітык.

«Галоўнае - адкрыць грамадствам гэтых краінаў Еўропу, захаваць смак Еўропы. Болей Еўропы у Беларусь!» - заключыў Аляксандр Мілінкевіч.

**Прэс-служба "Руху "За Свабоду!"**

НАШЫ МЕЖЫ

*(пачатак на стар. №3)*

тытульнай нацыі, якая стварыла гэтую дзяржаву), то трэба дадаваць не адну і не дзве гадзіны, а зрабіць канкрэтныя крокі па стварэнні беларускамоўнай сістэмы адукацыі: ад дзіцячага садка да ВНУ. Вось калі б Лукашэнка заявіў пра неабходнасць нарэшце стварыць у дзяржаве беларускамоўны нацыянальны ўніверсітэт, пра што мы гаворым усе гады незалежнасці, то гэта б прагучала сапраўды важка. А што да адной гадзіны...

Я б прапанаваў, каб гэтую гадзіну вызначылі для вывучэння мовы чыноўнікамі усіх рангаў. Каб яны хаця б займаліся мовай па гадзіне на тыдзень, а затым здалі б экзамен на яе валоданне. Вось гэта былі б сапраўдныя захады па абароне беларускай мовы і забеспячэнню раўнапраўя другой дзяржаўнай мовы, правы якой штодзень парушаюцца.

**Радыё Рацыя**

ДЭНАМІНАЦЫЯ

# КАЛІ ПРОЙДЗЕ ТРЭЦЯЯ ДЭНАМІНАЦЫЯ?

**Роўна 15 гадоў таму, 20 кастрычніка 1999 г., Нацыянальны банк прыняў пастанову аб правядзенні ў краіне дэнамінацыі. Намінальнымі кошт рубля 1 студзеня 2000 года змянілася ў 1000 разоў, у выніку чаго беларускія грашнакі пазбавіліся трох нулёў.**

**Беларускія капейкі - дарагое задавальненне**

Чуткі пра нібыта дэнамінацыі ў Беларусі актыўна ходзяць апошнія пяць-шэсць гадоў. Упершыню яны з'явіліся ўвосень 2008-га - незадоўга да дэвальвацыі беларускага рубля, якая адбылася ў студзені 2009 года.

Пазней высветлілася, што чуткі, якія бударажаць розумы насельніцтва, не марныя. У кастрычніку 2013., Адказваючы на пытанні журналістаў, Аляксандр Лукашэнка прагаварыўся, што новыя грошы надрукаваныя і «не адзін год яны ляжаць на складах».

Можна меркаваць, што намінальная кошт рубля пасля трэцяй дэнамінацыі зменіцца ў 100 разоў, і беларускія грашнакі пазбавяцца двух нулёў. Дарэчы, у верасні гэтага года Нацбанк прыняў рашэнне, што з 2015 года банкнота наміналам 50 рублёў будзе паступова выводзіцца з абарачэння, і канчаткова гэты працэс завершыцца ў сярэдзіне 2016-га. Такім чынам, намінал купюры найменшага годнасці складзе 100 рублёў. Закрэсліць нулі пасля гэтага будзе проста, і капейкі ўводзіць не давядзецца.

**Непрыемная працэдура**

Дэнамінацыя - працэдура чыста тэхнічная, хоць і тычыцца грошай. Аднак насельніцтва да гэтага чыста тэхнічным працэсу ставіцца, як мінімум, насцярожана, а як правіла - негатыўна.

«Здэнамінацыяйу нас часта асацыюецца слова дэвальвацыя. Праблема заключаецца ў тым, што, па-першае, многія блытаюць адно з іншым, па-другое - у памяці захаваліся сумныя падзеі 1990-х гадоў, калі пасля дэнамінацыі ў нас разгортваліся інфляцыйныя спіралі », - кажа старэйшы аналітык Forex Club у Беларусі Валерый Палхоўскі.

Прадбачачы негатыўныя наступствы, улады, хоць новыя грошы ўжо даўно надрукаваныя і ляжаць на складах, нават не маглі аб'яўляць дэнамінацыю ў апошнія гады.

«Дэнамінацыя адкладалася з-за нежадання ўладаў лішні раз бударажыць насельніцтва. За апошнія пяць гадоў у нас было дзве дэвальвацыі, і на гэтым фоне правядзенне дэнамінацыі было немэтазгодна», - мяркуе фінансавы аналітык даследчай групы BusinessForecast.by Аляксандр Муха.

**Трэцяя дэнамінацыя: ці варта баяцца?**

Гісторыя суверэннай Беларусі ведае дзве дэнамінацыі: першая праводзілася ў 1994-м, другая - у 2000-м. Трэцяя, на думку экспертаў, можа быць праведзена пасля прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца восенню наступнага года.

Улічваючы падзеі 2011-га, калі пасля выбараў краіна сутыкнулася з фінансава-эканамічным крызісам, насельніцтва можа чакаць чарговага падвоху ў канцы 2015 пасля выбарчай кампаніі. На гэтым фоне могуць ўзмацніцца дэвальвацыйныя настроі, паўстаць новыя чуткі пра нібыта будучай дэнамінацыі.

Зрэшты, улічваючы, што новыя беларускія грошы на складах ляжаць не адзін год, дэнамінацыю ўлады наўрад ці лічаць тэрміновай мерай. Таму калі ў год выбараў ці пасля выбарчай кампаніі эканамічная сітуацыя па нейкіх прычынах стане выходзіць з-пад кантролю, дэнамінацыю зноў адкладуць да лепшых часоў. Спяшацца з гэтым улады сэнсу не бачаць - жылі бо калі-то беларусы і з мільёнными купюрамі ...

**Дзмітрый Заяц**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 28.10.2014 у 18.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.